# „Дармаеды й скнары“ — спадарожнікі камунізму

Як паведамляе савецкая прэса, у канцы жніўня сёлета ў Маскве адбылася нарада працаўнікоў пракуратуры, міліцыі, суду й кіраўнічага складу камсамолу, прысьвечаная адзінаму пытаньню — «узмацненьню змаганьня з дармаедамі». Разглядаючы вынікі працы нарады, «Комсомольская правда» з 28. 8. 1960 робіць з гэтае нагоды наступнае, даволі паказальнае прызнаньне:

«Нарада паказвае, што бязьлітаснае змаганьне з лодырамі й дармаедамі — насьпеўшая пытаньне. Ясна, што міліцыя й судовыя ворганы адны з гэтым ня ўправяцца. У наступе на дармаедаў павінны прыняць удзел усе камсамольскія й іншыя грамадзкія арганізацыі, уся грамадзкасьць».

Сярод заганаў і недахопаў сучаснага савецкага грамадзтва, названых у дакладзе кіраўніка аддзелу прапаганды й агітацыі ЦК КПСС Л. Ільлічова, дармаедзтва й скнарства выведзеныя на першае месца, а змаганьне зь імі называецца першым дзяржаўным заданьнем. Патрабаваўшы ад партыйных арганізацыяў «карэннага павароту да пытаньняў прапаганды й агітацыі», Ільлічоў заявіў: «Мы павінны вясьці змаганьне супраць лодыраў і дармаедаў, супраць тых, хто не працуе, а есьць, даваць зьнішчальны адпор прыватнасобсьніцкім тэндэнцыям, апалітычнасьці, рэцыдывам нацыяналізму, рэлігійным забабонам і іншым праявам буржуазнай ідэялёгіі» («Правда», 10. 9. 60).

Таксама і ўся савецкая прэса апошнімі тыднямі перапоўнена матар'яламі, прысьвечанымі змаганьню з дармаедамі й скнарамі. Падобна да праславутых кампаніяў змаганьня з «ворагамі народу», цяперашняя савецкая прэса пярэсьціцца загалоўкамі, поўнымі нянавісьці й нагонкай супраць собскіх грамадзян. «Ганьба дармаедам!», «Вон, дармаеды, з нашага шляху!», «Хай гарыць зямля пад нагамі дармаедаў!», «Закончыць зь агіднейшымі перажыткамі мінулага — паразытызмам, рвацтвам, утрыманствам!», «Прымусіць іх да працы!», «Дармаеды й гультаі ня толькі бескарысныя, але й шкодныя для нашай бацькаўшчыны людзі», «Дармаеды — да ганебнага стаўпа!», «Хопіць далікатнічаць!» і г. д. Гэта толькі частка характэрных прыкладаў з апошніх нумароў «Правды» й «Комсомольской правды». Аб «дармаедах і махлярох» у савецкай грамадзкасьці змушаны быў і Хрушчоў гаварыць, выбраўшы для гэтае мэты ня зусім удалую нагоду вугорскай прамысловай выстаўкі ў Маскве, якая была быццам-бы яскравым прыкладам перавагі сацыялістычнага ладу над капіталістычным.

Аб наяўнасьці ў савецкім грамадзтве паразытных элемэнтаў, дармаедаў і скнараў ды аб неабходнасьці весьці змаганьне зь імі, савецкая прэса пісала ўжо й раней. Аднак-жа паднятая цяпер кампанія змаганьня зь імі, апрача грандыёзнага размаху, мае й іншыя характэрныя асаблівасьці, Галоўныя зь іх:

**1. Новае ў азначэньні паразытызму**

Дасюль да паразытнага элемэнту савецкага грамадзтва афіцыяльна залічаліся наступныя катэгорыі савецкіх грамадзян: спэкулянты й дробныя перапрадаўцы рынку, прыватныя прадпрыемцы і гэтак называныя шабашнікі (што працуюць на прыватны наём), дарослыя «абібокі» — галоўным чынам дзеці кіраўнічай верхавіны й выдатных спэцыялістых, якія жывуць на ўтрыманьні бацькоў, іншыя грамадзяне, што не займаюцца грамадзка карыснай працай (што не належаць да службы дзяржавы, каапэратыву, калгасу) і якія жывуць на сяродкі зь няведамых крыніцаў. Але ў вапошнія часы савецкая прэса, асабліва сатырычная, цэнтральная маладзёжная, а таксама й «Литературная газета», усё часьцей бярэ пад рэзкі абстрэл паразытызм, дармаедзтва і скнарасьць выдатных як пры службе так і пансыянаваных прадстаўнікоў кіраўнічага, партыйнага слою, якія ўрастаць у камунізм намераныя толькі разам з собскімі дачамі, аўтамабілямі, спадчыннымі пэнсіямі й «саліднымі сберкніжкамі». Так, прыкладам, у артыкуле «Морда мешчаніна», надрукаваным у «Литературной газете» з 30. 7. 60, Л. Ліхадзееў, апісаўшы зьдзірскую мараль і дзеяньні ня выпадкова схаваных за ініцыяламі высокапастаўленых асоб савецкага грамадзтва, робіць наступны абагульняючы вывад:

«Як бачыце, справа ўжо ня толькі ў собсьніках працы тыпу «ня бі ляжачага». Ня вымерлі яшчэ жывыя стварэньні, што прыймаюць ад грамадзтва згодна поўнасьцяй законным разнарадкам даволі паважныя даброты, і якія бачаць свой кантакт з грамадзтвам толькі ў гэтым. Ім ня трэба «выкручвацца», здабываючы кругляк. Для іх зьяўляюцца брыдкімі ўсякія махінацыі.

Але ў гэтых жывых стварэньняў ёсьць свая, трэба сказаць, поўнасьцяй гістарычная лёгіка. Яны хочаць узаконіць свае пагляды. Яны хочаць атрымоўваць барышы з усяго, да чаго толькі не датыкнуцца. Яны хочаць барышы з дачы, з пасады, з грамадзкага палажэньня. Яны хочаць прыцягнуць у камунізм выпрабаваны капіталістычны спосаб разьмеркаваньня, замацаваўшы яго за сабой на век».

Для апраўданьня свайго паразытнага спосабу йснаваньня гэтыя «жывучыя стварэньні», паводля цьверджаньняў газэты, добра засвоілі стары, даволі паўнаважкі лёзунг: «За што змагаліся?» і моцна за яго трымаюцца.

Як ведама, у Савецкім Саюзе гэты «лёзунг» ужо даўно ўзаконены аргумэнтам для афіцыяльнага апраўданьня прывілеяванага жыцьця старых рэвалюцыянэраў, «герояў айчыннай вайны» ды шматлікіх заслужаных дзеячоў савецкага мінулага.

Пры гэтым газэта выступае й супраць пашыранай практыкі ўвекавечваньня матар'яльных прывілеяў патомству «заслужаных» продкаў, у якіх часта вычесьнена думка аб тым, «што за службу грамадзтву даюць проста зарплату, а ня спадчынны маярат». Да характэрыстыкі «марксістага»-скнары, які засвоіў правілы за свае мінулыя заслугі пажыцьцёва «яўна й законна, пад адкрытым небам даіць грамадзтва», г. зн. вясьці жыцьцё паразыта, «Литературная газета» дадае: «За ягоным злосным дамовым дарвінізмам зьзяе, як чыстая цукярніца, паважная, паголеная морда мешчаніна, які мроіць як найхутчэй узаконіць у ўмовах камунізму свае хапальныя рэфлексы...»

Газэта і ў іншым месцы паказвае на наяўнасьць у васяродзьдзі савецкай палітычна граматнай інтэлігэнцыі імкненьня да перагляду палажэньня аб камунізьме з мэтай «падкаваць свае скрыні марксісцкімі падковамі». Падобных матар'ялаў аб «ідэйных і заслужаных» дармаедах і хціўцах у савецкай прэсе вельмі шмат.

**2. Прызнаньне росту паразытызму**

Яшчэ да нядаўнага часу савецкая прапаганда, успамінаючы аб «паразытных элемэнтах» у СССР, цьвердзіла, што гэта толькі жалюгодная спадчына мінулага, мізэрныя выпладкі капіталізму, колькасьць якіх рэзка скарачаецца, і хутка ўжо савецкае грамадзтва зусім іх пазбавіцца. Аднак ужо самое прызнаньне таго, што з разьвязаньнем гэтае праблемы паліцыя й судовыя ворганы ня справяцца («Комсомольская правда», 28. 8. 1960), паказвае ня толькі на складанасьць гэтай праблемы, выкліканай зьяўленьнем новае, прывілеяванае клясы хціўцаў, але й на масавы характар паразытызму ў савецкім грамадзтве.

Як заявіў пракурор Масквы Баскаў, «...пытаньне змаганьня з лодырамі й дармаедамі зьяўляецца вельмі важным і сваечасовым. Нам на кажным кроку даводзіцца сутыкацца з паразытнымі элемэнтамі» (тамсама).

Больш яшчэ, савецкая прэса прызнае ня толькі колькасьць, але й «якасны» рост дармаедзтва й паразытызму ў СССР. Дзеля гэтага й кампанія змаганьня зь імі разгортваецца гэтым разам у новых формах і нябывалых да гэтага часу памерах.

**3. Новыя формы й мэтады змаганьня з паразытызмам**

Савецкая прапаганда не хавае таго факту, што рост некаторых відаў паразытызму ў СССР значна ўзмоцніўся ад часу паслабленьня мераў прымусу пасьля сьмерці Сталіна й із спробай Хрушчова замяніць мэтад пакараньня мэтадам грамадзкага ўзьдзеяньня й ідэялягічнага ўзгадаваньня масаў.

Такі «грэх», як скнарская й прыватнасобсьніцкая псыхалёгія ніколі не пакідаў савецкіх грамадзян, уключаючы й кіраўнічы пласт савецкага гмадзтва. Аднак з праклямацыяй Хрушчовам прынцыпу матар'яльнай зацікаўленасьці, як асновы разьмеркаваньня пры сацыялізьме, пад гэтую ганьбаваную псыхалёгію падведзена тэарэтычная база. І гэта хутка дало свае вынікі. Як бачна, ідэйная ўзроўня савецкіх грамадзян, у разуменьні кіраўнічай верхавіны, аказалася не на вышыні, а гэтак званая грамадзкасьць — кіраўнічы пласт грамадзтва — стаўся ўзорам хцівасьці й нажывы.

І савецкае кіраўніцтва, інсьпіраваўшы новы паход супраць паразытных элемэнтаў у СССР, для адных (собскіх кадраў) патрабуе ўзмацненьня ідэялягічнага выхаваньня, для іншых, што стаяць вонкі ўплыву «грамадзкасьці» — срогіх мераў прымусу. Іх, як піша «Комсомальская правда» з 25. 8. 1960 г., «...трэба судзіць срогім судом і на аснове прысудаў гэтага суду прымусова высылаць на цяжкія працы ў аддаленых мясцох».

Тая самая газэта ў рэдакцыйным артыкуле піша: «Варта падумаць аб ужыцьці адміністрацыйных санкцыяў у дачыненьні да закаранелых лодыраў і дармаедаў».

У пляне гэтых двух шляхоў змаганьня з дармаедамі й хціўцамі і разьвіваецца паднятая цяпер кампанія прапаганды вакол гэтай праблемы.

У ходзе гэтай кампаніі прабіваецца яшчэ адна цікавая дэталь, што кідае выразнае сьвятло на савецкую запраўднасьць. Як вядома, пасьля абвешчаньня Хрушчовам уступу савецкага грамадзтва ў пэрыяд разгорнутага будаўніцтва камунізму, савецкая прапаганда загаварыла «аб блізкім дасягненьні запаветнай

(Заканчэньне на 3-й бач.)

З радыевай хвалі «Свабода»

# Сацыялістычны псэўдарэалізм

Бяручы ў спрошчаным выглядзе, сацыялістычны рэалізм, апрача іншых якасьцяў, мае ў сабе, як гэта ні дзіўна, сваеасаблівыя рысы псэўдаклясыцызму: патас, героіка як там, так і тут хвальшывыя, паняцьце дадатнага й адмоўнага ў вабодвух выпадках зноў-такі хвальшывае. На падставе гэтай бязь ніякай нацяжкі аналёгіі, сацыялістычны рэалізм можна было-б назваць псэўдарэалізмам. Сацыялістычны псэўдаклясыцызм, імкнучыся навонкі быць аб'ектыўным, на справе падрабляе, хвальшуе рэчаіснасьць, баіцца гэтай аб'ектыўнасьці, асабліва ў ейнай скрайнай форме — натуралізму, фатаграфічнасьці. Успомнім хоцьбы аповесьць Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы»: фатаапарат пісьменьніка вельмі-ж дакладна выявіў, ахапіў савецкую рэчаіснасьць. Усім ведама, як рэагавала савецкая крытыка й першы сакратар ЦК КПБ на гэты «здымак» Кулакоўскага. Натуралізм, як творчы мэтад сувора асуджаецца, маўляў, гэта не мастацтва, а фатаграфія. Але гэта зусім ня шкодзіць савецкаму літаратуразнаўству, напрыклад, хваліць натуралізм Эміля Заля за тое, што ён нібыта глыбака адлюстроўвае разлажэньне капіталізму. Але калі вось натуралізм Кулакоўскага адлюстроўвае, фатаграфуе камуністычную рэчаіснасьць, гэта, бачыце, нядобра й вялікае злачынства. Гэткая ўжо савецкая лёгіка.

Але за тое ў пашане псэўдарэалізм.

Вось перад намі п'еса народнага пісьменьніка Кандрата Крапівы «Пяюць жаваранкі». Крапіва — таленавіты аўтар, з немалой, цікавай літаратурнай спадчынай, спрактыкаваны драматург, які запраўды авалодаў вялікім майстэрствам. У п'есе «Пяюць жаваранкі» і знаку няма таго натуралізму. Колішняя аўтарава «натуралістычнасьць» зьнікла зусім: ейнае месца ад пачатку й да канца заступіла гэтак званае «высокае майстэрства» сацыялістычнага псэўдарэалізму. «Пяюць жаваранкі» дэманструе нам заможнае жыцьцё калгасьнікаў. Але як жыве той калгасьнік, што ён думае й адчувае, з п'есы вы не даведаецеся. Прад вамі ў розных варыяцыях мільгаюць увесь час толькі старшыні калгасаў, іхныя брыгадзіры, іхныя шафёры, агратэхнікі й партыйныя сакратары. Самых-жа хлебаробаў ня відаць. Драматургічны вузел п'есы — няўдалае сватаўство; разьвязка (абавязкава шчасьлівая для псэўдарэалізму) — вясельле. На гэткім «канфлікце» раскручваецца спружына-сюжэт гэтага твору. Але, як мы ўжо сказалі, вы не заўважаеце ніводнай постаці калгасьніка: ад імя гэтых «адмоўных» герояў і за іх гавораць дадатныя героі — старшыні й брыгадзіры... Пяюць жаваранкі, заліваюцца... Гэта — лейтматыў п'есы. Да гэтых сьпеваў жаваранкаў Крапіва не пасароміўся падсыпаць жменьку абрадавых, вясельных народных песьняў (эксплятуецца і фальклёр, калі трэба), і атрымалася ідылія.

Хвальшыва сьпяваюць жаваранкі Кандрата Крапівы. Атрымаўся сацыялістычны лубок — рэзультат псэўдарэалізму. І толькі адно-адзінае месца ў п'есе абуджае вас ад летаргічнага сну сацыялістычнага рэалізму, насьцярожвае вас і вяртае із сьвету ўяўнага ў сьвет рэальны — гэта аўтарская рэмарка: «Кабета (эпізадычная постаць-цень у п'есе) зьбіраецца на працу, бярэ ў рукі сякеру, прабуе пальцамі лязо» (выходзіць у нядзелю! — секчы хмызьняк на лузе).

Так прагаворваецца часамі сацыялістычны псэўдарэалізм. Асабліва прагаворваюцца найбольш таленавітыя ягоныя прадстаўнікі, у тым ліку й Крапіва. Адгэтуль вынікае адна вельмі важная зьява: нядзольнасьць сацыялістычнага псэўдарэалізму пры ўсіх ягоных натугах маскаваць рэальнасьць. Верны сацыялістычнаму рэалізму, Крапіва, як таленавіты пісьменьнік, нават сваімі жаваранкамі не зацьміў вобразу «жачыны зь сякерай»: ён войстра ўрэзаўся ў тканіну твору, хоць і не парушыў яе фармальна, як-бы ўвагнаўшы толькі клін.

Куды больш «клін» мы знаходзім у другой п'есе Крапівы «Канец дружбы», напісанай у 1933-ім годзе. Калі першая п'еса — бытавая, дык гэтая — ідэйная, тут аўтар паставіў сабе за мэту вырашыць праблему дружбы пакамуністычнаму. Вырашыў ён яе фармальна, памастацку — непераканаўча. Затое мімаходам, як-бы ня хочучы таго, незнарок двума-трыма дэталямі паказаў трагедыю беларускага селяніна часоў калектывізацыі й ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Зацытуем рэпліку аднаго селяніна: «Чакаў я падпіркі на старасьць. Вось і падперлі мяне. Так падперлі, што мне з старою прыходзіцца ў чужым кутку сьмерці чакаць, гледзячы, **як чорт лысы дабро тваё спажывае...** Кулакі? Якія-ж мы кулакі? Так сабе мужыкі, як і ўсе. Беларусы няшчасныя...»

З гэтага гледзішча п'еса «Канец дружбы» надзвычайна рэалістычная, яна праўдзіва адбіла ў сабе рэчаіснасьць, хоць ейны фінал і вытрыманы ў духу сацыялістычнага псэўдарэалізму: нават жонка з сынам-падлеткам дапамагаюць на чыстцы вычышчаць з партыі мужа й бацьку.

У пісьменьнікаў, чулых да мастацтва, псэўдарэалізм, сацыялістычны рэалізм бывае толькі формай, схэмай, канвой і часта абарачваецца у супрацьлежнасьць, у свайго антыпода — **аты-соцрэалізм.**

Бо-ж, як кажа і сам Крапіва, «Гэта жывёла пад'ела, дык ёй нічога больш і ня трэба. І то цяперашняя карова любіць, каб у яе ў хляве й вакно было й каб электрычнасьць гарэла ноччу. А чалавеку-ж крыху больш сьвятла патрэбна, чым карове».

Жадаючы ўсё-ж нейкага сьвятла для чалавека, западны пісьменьнік ня можа ня вырывацца з ціскоў сацыялістычнага псэўдарэалізму, ня можа ня прызнаць права чалавека на сьвятло.

**М. С.**

# Масква супраць эўрапэйскай інтэграцыі

(Працяг з 1-й бач.)

эканамічнага жыцьця й псыхалягічнага складу, што выяўляецца ў вагульнасьці спэцыфічных асаблівасьцяў нацыянальнай культуры. І гэта ўсё прыхільнікі ідэі заходняэўрапэйскай інтэграцыі намагаюцца зьнішчыць адным замахам!

Не кранаючыся іншых аспэктаў актуальных савецкіх засьцярогаў што да руху заходняэўрапэйскай інтэграцыі, зьвернем толькі ўвагу на апошнія заўвагі В. Княжынскага.

Папершае, сьмешным зьяўляецца гэтае абвінавачаньне В. Княжынскага заходняэўрапэйскіх гісторыкаў у служэньні «імпэрыялізму», у пераўтварэньні гістарычнай навукі ў палітыку дня, у хвальшаваньні гісторыі эўрапэйскіх народаў. Ідэя эўрапэйскай інтэграцыі запраўды зьяўляецца высокай ідэяй, што кліча народы да больш цеснага сужыцьця й супрацоўніцтва. З гэтага гледзішча чым-жа ў тэорыі розьніцца ідэя савецкага «камунізму» й «інтэрнацыяналізму», якія наагул адкідаюць хоць і найменшыя правы народаў, не гаворачы ўжо пра «захаваньне» нацыянальнай сувэрэннасьці. Калі-ж ідзе пра савецкую гістарычную навуку, дык тут выходзіць простае непаразуменьне: цяпер-жа сама партыя й савецкія гісторыкі цьвердзяць усьцяж, што гэтая навука павінна быць сьціпла палітычнай ці партыйнай навукай, павінна стацца свайго роду прапагандай ідэяў бягучага дня, свайго роду савецкім літаратурным соцрэалізмам. Калі гісторык В. Княжынскі ня знае гэтага, дык яму варта пазнаёміцца хоцьбы з працамі нарады актыву працаўнікоў інстытутаў грамадзкіх навук Акадэміі навук СССР па разгляду сваіх заданьняў у сувязі з пастановай партыі «Пра заданьні партыйнай прапаганды ў сучасных умовах», ці зь перадавым артыкулам «Пастанова ЦК КПСС «Пра заданьні партыйнай прапаганды ў сучасных умовах і гістарычная навука», што быў зьмешчаны ў 6 нумары часапісу «Вопросы истории» за 1960 год. Тут зазначалася адкрыта, што савецкая гістарычная навука «можа выканаць сваё заданьне толькі ў тым выпадку, калі яна будзе цесна зьвязана з практыкай камуністычнага будаўніцтва, з надзённымі заданьнямі партыйнай прапаганды».

Падругое, як пэрфідна выглядае «абарона» В. Княжынскага нацыянальных правоў заходняэўрапэйскіх народаў на фоне савецкай рэчаіснасьці!

Возьмем найперш эканамічны бок разьвіцьця падсавецкіх народаў. Як, паймення, там вызначаецца гэтая «нацыянальная сувэрэннасьць», калі эканамічнае жыцьцё падсавецкіх народаў вырашаецца й дыктуецца адным цэнтрам, калі ўрад зусім ня лічыцца з эканамічнымі інтарэсамі паасобных рэспублік ці народаў, калі народы ня маюць права ўмешвацца ў эканамічную палітыку партыі. У гэтым кірунку апрацоўваюцца цяпер таксама й краіны так званай «народнай дэмакратыі».

Ня выпадае закранаць пытаньня нацыянальна-культурнага разьвіцьця падсавецкіх народаў, бо ў запраўднасьці такога разьвіцьця ў Савецкім Саюзе няма, яно там зьнішчанае.

Нацыянальныя правы падсавецкіх народаў і нацыянальнасьць наагул. Якімжа ігнарантам паказваецца гісторык В. Княжынскі, калі ня ведае ці не азнаёмлены з саракагадовым антынацыянальным змаганьнем партыі, з тым нацыянальным прыгнечаньнем, якое перажываюць падсавецкія народы, у тым ліку й народы краінаў «народнай дэмакратыі», калі не азнаёмлены з актуальным пастулятам партыі: **выкараніць нацыяналізм падсавецкіх народаў дашчэнту.** Іншая справа, калі ён кіруецца палітыкай партыі адносна расейскага народу, але тут трэба ўжо гаварыць аб імпэрыялізьме. Каб пазнаёміць гісторыка В. Княжынскага з савецкай рэчаіснасьцяй гэтага характару, зацытуем спэцыяльна для яго толькі дзьве вытрымкі з савецкіх крыніцаў. Першая: «Неабходна праводзіць няпрымірнае змаганьне супраць праяваў буржуазнага нацыяналізму, — гаворыцца ў пастанове ЦК КПСС «Пра заданьні партыйнай прапаганды ў сучасных умовах», — супраць тэндэнцыяў... выкрыўленьня запраўднай гісторыі таго ці іншага народу й ягоных узаемных адносінаў з другімі народамі СССР, супраць паасобных праяваў нацыянальнай замкнутасьці й выключнасьці». Для паясьненьня дадамо, што ў Савецкім Саюзе існуе толькі «буржуазны нацыяналізм» нерасейскіх народаў, «выкрыўленьне гісторыі» нерасейскіх народаў і «нацыянальная замкнутасьць» таксама нерасейскіх народаў.

Другая: «Ленінізм, — зазначае ў «Вопросах истории» Янаш Кадар, — радзіўся ў Расеі, але ён ніколі ня быў для Вугоршчыны «замежным», імпартным прадуктам. Буржуазны-ж нацыяналізм, які ёсьць нічым іншым, як перасадкай рэакцыйных заходніх і асабліва нямецкіх паглядаў і лёзунгаў, у запраўднасьці чужы грамадзкім інтарэсам вугорскага народу». Што азначае: ідэя нацыянальнасьцяў зьяўляецца заходняэўрапэйскай ідэяй, а праўдзівей толькі нямецкай?!

Што-ж пасьля гэтага можа сказаць В. Княжынскі? А проста прамоўчыць, прапануючы сьледам за партыяй: «Імпэрыялістычнай палітыцы эўрапэйскай інтэграцыі, якая вядзе да паглыбленьня расколу Эўропы й паняволеньня заходняэўрапэйскіх народаў, супрацьстаіць сацыялістычная палітыка раўнапраўнага супрацоўніцтва на аснове ўзаемнай пашаны сувэрэнітэту й поўнага раўнапраўя дзяржаваў, а таксама іх нацыянальных інтарэсаў ды якая вядзе да зьбліжэньня эўрапэйскіх народаў. Яркім прыкладам запраўднага аб'еднаньня народаў у інтарэсах міру й росквіту зьяўляецца братэрскае супрацоўніцтва сацыялістычных краінаў», начале, ведама з Савецкім Саюзам і расейскім народам, «самым прагрэсыўным» народам сьвету!

Вось для чаго спатрэбілася разгледжанае абвінавачаньне В. Княжынскага прыхільнікаў ідэі заходняэўрапэйскай інтэграцыі. Што-ж, калі яны забываюць пра Савецкі Саюз і пра ягоныя прэтэнзіі «повелителя вселенной»!

**П. Залужны**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# Забітыя й забытыя

*(УСПАМІНЫ)*

Сярод ахвяраў бальшавізму ёсьць беларускія пісьменьнікі, замардаваныя, расстраляныя, загінутыя на Далёкай Поўначы. Ёсьць таксама і тыя, што вярнуліся на бацькаўшчыну пасьля доўгіх год савецкай катаргі фізычна й духова пакалечаныя.

Ахвяры бальшавізму гэта і тыя, што ў часе яжоўшчыны перажылі ўсякія рэпрэсіі й зьдзекі партыйных бюракратаў, дайшлі да ступені вар'яцтва й вырваныя назаўсёды з літаратурнай нівы.

Пра апошніх цяпер і будуць мае ўспаміны.

### I. ВІКТАР КАЗЛОЎСКІ

Было гэта ў 30-ых гадох... Малады паэт Віктар Казлоўскі — прыгожы сялянскі хлапец — прыехаў ў Менск вучыцца. Густыя каштанавыя валасы акуратна зачэсаныя ўгару роўнымі хвалямі. Часам ён задумаецца. І тады ў ягоных блакітна-зялёных вачох быццам-бы адбіваўся колер лясных вазёраў. Прыяцелі звалі Казлоўскага проста, ласкава — Вікця.

Вікця вызначаўся сваёй сьціпласьцяй і рэдка выступаў на літаратурных вечарох. Чытаў ён свае вершы, як сельскі дзячок, спакойна й выразна — нараспеў. У голасе, аднак, вычувалася задушэўная цяплыня.

Цяжка сказаць, як разьвіўся-б і вырас талент, калі-б Казлоўскі жыў у іншых, не савецкіх умовах. Можна адно сказаць: паэт ня меў-бы трагічнай разьвязкі...

Зь Віктарам Казлоўскім я часта сустракаўся й гутарыў. Апошнім часам ён, як я заўважыў, у характары зьмяніўся, стаўся недаверлівым, скэптычным. Трымаўся неяк збоку, асобна ад сваіх калегаў пісьменьнікаў. І гэта зразумела. Час той быў няпэўны, трывожны. Пачаліся масавыя арышты. У сьпіс «ворагаў народу» трапілі й ягоныя сябры. Казлоўскі нясьцярожыўся, адыйшоў ад усіх, замкнуўся ў сябе. Паглыбіўся ў свае творчыя пляны. Шмат пісаў.

Ён друкаваўся ўжо ўва ўсіх менскіх часапісах і газэтах. Рыхтаваў адзін за адным зборнікі вершаў. Нехта з маладых навет пакпіў: «Бачыш, які Казлоўскі! Вершы, як бліны, пячэ.»

Ня ў добры час пажартавалі. Не давялося Казлоўскаму далей пісаць...

Як толькі я вярнуўся з падарожжа дадому й наведаў Менскі Дом Пісьменьніка, мяне папярэдзілі» «Казлоўскі быў у вар'яцкім доме. Гаварэце зь ім асьцярожней.»

Навіна ўразіла і ўзрушыла больш, чымся арышты пісьменьнікаў. Такое няшчасьце зь Віктарам!

І вось я аднаго разу ўбачыў Казлоўскага. Ён прывітаўся са мной. Нясьмела падаючы руку, ён зірнуў мне дапытліва ў вочы. Раптам пачырванеў і сарамліва-зьбянтэжана апусьціў галаву, гаворачы: «Ты ведаеш.. Табе сказалі. Напэўна хочаш уцячы ад мяне. Так... Я для ўсіх тут — вар'ят...»

Ягоны голас быў усхваляваны, прыдушаны болем і крыўдай.

Мне было вельмі шкада Вікцю і я, абыймаючы яго, супакоіў. «Ат, хай што хочуць гавораць. Я ня слухаю людзей і не мяняю пазыцыяў.»

У вачох Казлоўскага заблішчэў вясёлы агеньчык. «Дык, значыцца, магу даваряць, як сябру! — радасна сказаў ён, сьціскаючы маю руку. — Ну, дык хадзем да мяне. Пагутарым.»

Я згадзіўся й пайшоў зь ім. А ў душы маёй, прызнацца, нарастала мяшанае пачуцьцё — і жалю й трывогі.

Жыў ён на ўскраіне гораду. Маленькі цесны пакойчык. Зь бедным абсталяваньнем: стол, зэдлік, ложак, шафа й рукамыйнік. Этажэрка з кнігамі. Кнігі таксама й на стале, на шафе, на вакне, пад ложкам, пад матрацам. Віктар распаліў прымус і паставіў чайнік з вадой.

За шклянкай гарбаты, ён расказаў мне сумную гісторыю. Доўгі час ня меў працы. У выдавецтве няма Цішкі Гартнага. Яго арыштавалі. Сядзяць цяпер бюракраты. Кнігу выдаць нельга. Падазронасьць. Прычэпкі да кажнага радка. А пераклады? Пераклады, навет і мастацкую прозу, хапаюць бухгальтары й сакратары. А табе не даваряюць. Вось і жывi як хочаш. І гаспадыня штодня сварыцца — патрабуе кватэрнае платы. І пазычыць няма ў каго. А тут яшчэ сябры, як жабраку, рубля даюць:

«Вазьмі, кажуць, купі сабе хлеба.»

Хацеў пайсьці на працу чарцёжніка. Трэба-ж хоць што зарабіць. Ды вось ня прымаюць. Чаму-ж гэта пісьменьнік пяро хоча на цыркуль мяняць.

Што ні дзень, дык горш. Нэрвы ня вытрымалі.

Да каго-ж зьвярнуцца, як не да старшыні Саюзу Пісьменьнікаў — пытаецца Казлоўскі. Пайшоў да Клімковіча. А той і слухаць ня хоча. «У мяне тут, кажа, не сабез. Зьвярнецеся ў Літфонд.»

Там мне, праўда, дапамагалі, далі паўсотні. Але ці гэтыя грошы надоўга? Потым ізноў, як кажуць, кладзі зубы на паліцу. Пайшоў я другі раз да Клімковіча з просьбай накіраваць мяне на якуюнебудзь працу. І вось тут я пазнаў бяздушнага бюракрата. Ён мяне літаральна вытурваў з свайго габінэту. Але я наважыўся змагацца за сваё існаваньне. «Ня выйду адсюль, — крычэў я, — ня выйду. пакуль вы мне не дасьцё працы!»

Клімковіч пачаў лаяць мяне, абзываць вар'ятам і нарэшце выклікаў хуткую дапамогу. Вось гэтак, зь ягонай ласкі, я трапіў у дом вар'ятаў.

Віктар Казлоўскі сумна паглядзеў на мяне і, нахіліўшыся бліжэй, паклаў мне на плячо руку:

— Скажы, Кастусь, ці думаеш ты, што я — вар'ят? Як зрабіў-бы ты на маім месцы, калі-б цябе зьневажалі й зьдзекліва кпілі? Можаш сабе ўявіць, што я перажыў у тым доме, дзе ўсе людзі бяз розуму. Дзе дактары падазрона сочаць за тваім кажным крокам. Усе твае довады, што ты здаровы, не бяруцца на ўвагу. І выйсьці адтуль цяжка. Гэта, браце, найстрашнейшая турма. Горшая за ўсе іншыя.

Далей Казлоўскі падаў некалькі эпізодаў із свайго побыту ў Жоўтым доме і на заканчэньне горка сказаў:

— Цяпер я на волі. І сталася яшчэ горш. Нідзе не даюць працы. Маіх вершаў ня друкуюць. Вось напісаў новую паэму й таксама ляжыць мёртвым капіталам. Рэдактары баяцца, каб «чаго ня выйшла.» Лепш ня знацца з вар'ятам — падвядзе пад чужы манастыр. І толькі як адчэпнае — абяцаюць. Абяцаюць, а ня друкуюць. І вось ізноў старое ліха пачынаецца. Няма сродкаў на існаваньне, няма пэрспэктываў у будучыні. Нядаўна прыехаў да мяне брат з калгасу. Прывёз мне сёе-тое. Выратаваў ад голаду. Падзяліўся апошнім. А як-жа далей? Відаць, давядзецца ізноў ісьці да Клімковіча на апошні й рашучы бой.

Мы рассталіся, як прыяцелі. У гутарцы з Казлоўскім я не знайшоў нічога ненармальнага. Ён разважаў лягічна й спакойна. Віктар — проста няшчасны чалавек, як і шмат іншых у Беларусі. Запалоханы апошнімі падзеямі арыштаў, галодны, у роспачы, бяз грошай, бяз працы, пакінуты ўсімі й самотны.

Неўзабаве пасьля гутаркі са мной ён упарта наважыўся й пайшоў дамагацца права на працу, аб якой так крыкліва заяўляла сталінская канстытуцыя. З кабінэту Клімковіча ён трапіў ізноў у дом вар'ятаў. Партыйны бюракрат «літасьціва» паклапаціўся аб ягоным лячэньні. Казлоўскага перавезьлі зь Менску ў Маскву ў спэцыяльную псыхіятрычную клініку.

Як там лячылі хворага, я ня ведаю. Праз паўгода Казлоўскі вярнуўся ў Менск. Я ўбачыў яго ў Доме Пісьменьніка й не пазнаў. У пакамечаным пінжаку, з вялікай барадой і ўскалмачанымі даўгімі валасамі стаяў перада мной нейкі незнаёмы чалавек.

— Кастусь, не пазнаеш? — сказаў ён мне. І тут па голасе я адразу пазнаў: Казлоўскі! Віця! Я працягнуў руку. На мяне глядзеў зусім іншы, ня той Казлоўскі, зь якім я гутарыў апошні час. Ён, захлынаючыся ў словах, дзіка блукаючы вачыма, пасьпешна расказваў пра Маскву, палахліва аглядаўся, вярзіў нябыліцы аб тым, што яго нібыта хацелі вылучыць на высокае становішча; што ён некалькі тысяч контррэвалюцыянэраў перавыхаваў і паставіў на ленінскі шлях і што ўсе цырульнікі ў Менску ў змове з Клімковічам, і хочуць яго зарэзаць.

Я ня мог далей слухаць, ня мог глядзець на ягоны скрыўлены твар. Да чаго давялі! Жудасна.

### 2. ІЗРАІЛЬ ПЛАЎНІК

Ня менш трагічна скончыў свой творчы шлях другі паэт — Ізраіль Плаўнік. Ён — родны брат ведамала нашаніўца, беларускага пісьменьніка Зьмітрака Бядулі.

У 1926 годзе Ізраіль Плаўнік выдаў разам з Сяргеем Дарожным супольны зборнік вершаў «Звон вясны». Вершы Плаўніка зьмяшчаліся ў менскіх пэрыядычных выданьнях. Як паэт-лірык ён падаваў надзеі і, напэўна, каб ня тая славутая «сталінская эпоха» быў-бы ў шэрэгах добрых пісьменьнікаў. Нельга сказаць, што ўмовы творчасьці Ізраіля Плаўніка былі лепшымі за тыя ўмовы, у якіх некалі жыў і тварыў ягоны брат Бядуля. Праўда, Зьмітрак Бядуля пачынаў нялёгка. Бедаваў, гараваў (адсюль і псэўдонім Бядуля), але ўсё-ж нашаніўская пара была стымулюючай. Беларускія пісьменьнікі гуртаваліся вакол «Нашай Нівы» і, як браты, дапамагалі адзін аднаму. У зусім іншае асяродзьдзе трапіў Ізраіль Плаўнік.

Працуючы наборшчыкам у друкарні імя Сталіна, а пазьней карэктарам, ён адначасна пісаў вершы. Здольны ад прыроды, Ізраіль Плаўнік ішоў самавукам у паэзію, без пабочнай дапамогі. Былі часамі ў яго і літаратурныя няўдачы. Ён перажываў іх самотна, замкнёна. Былі таксама, хоць сьціплыя, але творчыя ўзьлёты. Тады ён цешыўся, чытаў свае вершы прыяцелям і знаёмым.

Памятаю, аднойчы я сустрэўся з Плаўнікам у Менску на вуліцы. Мы зайшлі на сквэр супраць тэатру, у зацішку мы знайшлі лаўку й селі. Ізраіль быў у добрым настроі. Ён выняў з кішэні паперу,

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# „Дармаеды і скнары"...

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

мроі чалавецтва — пабудаваньня самага справядлівага грамадзтва на зямлі». Імкненьню савецкага народу да камунізму, паводля цьверджаньняў савецкай прапаганды, ня было межаў. Шматлікіх «недасьпелых» да жыцьця ў камунізьме Хрушчоў у сваіх выступах пачаў прыстрашваць намерам ня ўзяць з сабою ў «сьветлае заўтра». З гэтым прыстрашваньнем дзяржаўнае выдавецтва СССР выпусьціла мільённым тыражом розныя плякаты й лёзунгі. Усё гэта сяньня ператварылася ў злы жарт. Савецкая прэса, «забыўшыся», каму належыць, як яна кажа, гэтыя вясёлыя аргвывады, піша: «Перш за ўсё трэба знайсьці прайдзісьвета, які хоча ў камунізм, а пасьля ўжо рабіць аргвывады: браць такога ў сьветлае заўтра, ці пакінуць яго ў супакою. Не, мілыя гумарыстыя. Гэтыя «героі» ня хочаць у камунізм. Яны туды ня просяцца. Больш яшчэ, яны робяць усё, каб сьветлае заўтра ператварылася хаця-б у сьветлае пасьлязаўтра, калі яго нельга й наагул адкласьці да будучага панядзелку» («Литературная газета», 30. 7. 1960).

Падсумоўваючы, можна зрабіць наступныя высновы: а) няўхільны рост дармаедзтва, паразытызму й хціўства ў вядучым, кіруючым пласьце савецкага грамадзтва зьяўляецца нязьбітым довадам таго, што передумовы да ўзьнікненьня й разьвіцьця гэтых зьяваў закладзеныя ў самым савецкім ладзе, яго сацыяльных асновах, г. зн. зьяўляецца яго прадуктам; б) сацыяльнымі ўмовамі грамадзкага ладу тлумачыцца таксама й рост колькасьці тых, што не жадаюць працаваць «у грамадзкай вытворчасьці» і шукаюць іншых крыніц да йснаваньня, ды якіх савецкая прапаганда залічае да паразытных элемэнтаў; в) афіцыяльнае прызнаньне савецкай прапагандай наяўнасьці паразытызму й хцівасьці ў васяродзьдзі вядучых партыйных кадраў паказвае на тое, што ў цяперашніх умовах савецкае кіраўніцтва ўжо ня ў стане вясьці змаганьня супраць «дармаедзтва й паразытызму» сярод жыхарства, ня прызнаўшы неабходнасьці змаганьня з паразытамі й хціўцамі ў кіраўнічым, прывілеяваным пласьце грамадзтва.

(Паводля «Аналізу бягучых падзеяў у СССР» Інстытуту Вывучэньня СССР)

**Абрам Тэрц**

# Суд ідзе

**(Заканчэньне)**

## ЭПІЛЁГ

Ля ракі Калымы, за ўзгоркам, мы капалі канаву — Сяргей, Рабіновіч і я. Я прыбыў у гэты лягер пазьней за іншых, летам пяцьдзесят шостага. Аповесьць, для заканчэньня якое не хапала толькі эпілёгу, стала ведамай у ваднэй высокай інстанцыі. Падвяла мяне, як і трэба было чакаць, успомненая раней драга, пастаўленая ў каналізацыйнай трубе нашага дому. Чарнавікі, што кажнае раніцы я добрасумленна пускаў у ўнітаз, беспасярэдня йшлі на стол да сьледчага Скромных. І хаця важная асоба, чый загад я выканаў, магчыма, недастаткова дакладна, да гэтага часу ўжо памерла й навет была пададзена перацэнцы з боку шырокае грамадзкасьці, мяне ўсё-ж прыцягнулі да адказнасьці за паклёп, парнаграфію й разгалашэньне дзяржаўнае таямніцы.

Я не запярэчваў: доказы былі тут-жа. Да гэтага яшчэ Ўладзімер Пятровіч Глобаў, выкліканы ў якасьці сьветкі, прадставіў дакумэнты, якія бясспрэчна даводзілі поўную маю віну. Усё, што я напісаў, як гэта выявіла сьледзтва, было прадуктам злое задумы, марнае выдумкі і хворага ўяўленьня.

Асабліваe нараканьне выклікаў той факт, што дадатныя героі (пракурор Глобаў, адвакат Карлінскі, хатняя гаспадыня Марына, двое ў цывільным і г. д.) не паказаны тут шматгранна ў іх працоўнай практыцы, а зласьліва выстаўлены перад чытачом нятыпічнымі бакамі. Адмоўныя-ж пэрсанажы (дзецязабойца Рабіновіч, дывэрсант Сяргэй і ягоная суудзельніца Каця, што запозна зразумела свае памылкі й за гэта растаптаная нагамі абуранага народу) хоць і былі пакараныя паводля заслугаў у маім паклёпніцкім творы, аднак не раскрытыя да канца ў сваёй рэакцыйнай аснове.

Не разьлічваючы на паблажу, я прасіў толькі таго, каб мне дазволілі, улічваючы крытыку, хаця ў эпілёгу зрабіць некаторыя паправкі, якія-б паказалі ў вадпаведным сьвятле некаторых маіх пэрсанажаў. Мне дазволілі гэта зрабіць, але ў працэсе собскага пераўзгадаваньня, без адрыву ад земляных працаў, прадугледжаных на Калыме.

Папаўшыся сюды, я хутка прыладзіўся да Сяргея й Рабіновіча. Дабіцца, каб нас пасялілі ў ваднэй зямлянцы й вартавалі разам, было няцяжка. Пасьля амнэстыі лягер апусьцеў. Нас буйных злачынцаў, засталося тут якіхсьці тысяч зь дзесяць. Начальства памякчэла й дазволіла стварыць ударную брыгаду ў складзе трох чалавек, вызначыўшы нам пэрсанальнага канвойнага з добрым аўтаматам. Зрэшты, у нашай брыгадзе ўдарна працаваў адзін Сяргэй, які лічыў, што неабходна садзейнічаць набліжэньню цудоўнае будучыні. Мы з Рабіновічам з прычыны старасьці адставалі ад яго.

Сяргей заўзята ўкараняў сярод нас прынцыпы новай маралі. Пайку хлеба з 400 грамаў, якую я атрымоўваў штодзённа, складвалі з аналягічнымі пайкамі маіх прыяцеляў. Усім гэтым хлебам загадваў у нас Рабіновіч, і, калі надыходзіў абедні час, мы 1 кг 200 гр дзялілі на тры часткі.

— Якая з гэтага карысьць? — дзівіўся я. — Ўсяроўна кажны зьядае свае 400 грамаў і навет меншы, таму што Рабіновіч тайком адкусвае па кусочку ад чужых паек.

— Нічога, нічога! — падбадзёрваў мяне Сяргей. — Ня пайка дарагая, а дарагі прынцып роўнага разьмеркаваньня прадуктаў.

Аднойчы, выгрэбваючы лапатай мёрзлую зямлю, я трапіў мамэнт:

— Скажэце, Сяргей, што піша із сталіцы ваш паважаны папа?

Той із штучнай абыякавасьцяй пацiснуў плячыма:

— Мы не перапісваемся, літаратар (мяне за былую прафэсію празвалі тут літаратарам). Бабка паведамляла неяк, што яго павысілі на пасадзе.

— Вось бачыце, Сяргей! — усклыкніў я, цешачыся з магчымасьці пагутарыць на хвалюючую мяне тэму. — Бачыце, якіх вышыняў дасягнуў гэты дзяржаўны дзеяч! Можаце ня сумлявацца ў маёй шчырасьці, я люблю вашага бацьку даўнай любоўю. Для мяне дарагі Эмельян Пугачоў, пераверңуты ў Аляксандра Суворава, грукат танкаў па бруку, вар'яцкі роў радыярэпрадуктараў — уся вышуканая нязграбнасьць гераічнай нашай эпохі, якая йдзе па зямлі, зьвінючы ардэнамі й мэдалямі.

І калі я наўсуперак загадам зьверху не ахаваў вашага папу сваім шчуплым целам, дык, паверце, я шукаў толькі нагоды зрабіць гэты ўчынак, а нагода выратаваць вашага папу так і не надарылася. Ён сам усіх ратаваў, сам усіх перасьледваў. О, калі-б яго пабівалі камяньнямі! Зь якой радасьцяй я памёр-бы за яго й заместа яго! Але яго не пабівалі...

Напэўна мая шчырая размова была няпрыемнай для Сяргея, і ён перамяніў гутарку:

Так, літаратар. Бацька лічыць мяне вераадступнікам. А вось маччыха, Марына Паўлаўна, хто-б мог падумаць! Учора ад яе атрымаў пасылку.

— Пазнаю вас, расейскія жанчыны! — захапіўся я, глытаючы сьліну. — З часоў дэкабрыстак! Княгіня Валконская, Трубэцкая. Помніце у Некрасава: «Каня на ляту запыніць, у хату увойдзе, якая гарыць». А ў пасылцы-ж што?

— Кардонка шакалядных цукеркаў зь лікерам.

— І ўсё?

— Усё.

Нічога ня зробіш. Добра хаця, што зь лікерам. Мы падаравалі нашаму канвойнаму палову пасылкі, а самі, ня вылазячы з канавы, наладзілі прыемны пікнік.

Як заўсёды, у хвіліны адпачынку нас забаўляў Рабіновіч. Зь ім апошнія часы тварылася штосьці страшнае. Магчыма ён звар'яцеў з прычыны лекараў-забойцаў, якіх прызналі нявінаватымі. У іхнай справе яго засудзілі, але рэгабілітаваць чамусьці забыліся. А, найхутчэй, ён проста із звычайнай жыдоўскай хітрасьцяй удаваў ненармальнага, памятаючы, што да псыхічнахворых адносяцца ў нас паблажліва і часта выпушчаюць у вар'яцкі дом.

У кажным выпадку гутаркі агоныя з пэўнага часу сталіся цёмныя й незразумелыя. Ён усё разважаў аб Богу, аб гісторыі, аб неякіх мэтах і сяродках. Часамі выходзіла вельмі сьмешна.

Вось і цяпер, даеўшы апошнюю шакалядку, ён выцягнуў зпад ватніка забаўную жалязяку, пакрытую ржою й зямлёй.

— Не, грамадзянін літаратар, як вам гэта падабаецца? — зьвярнуўся ён да мяне бязглузда ўсьміхаючыся.

— Архэалягічная знаходка! — усьцешыўся Сяргей і тут-жа зафантазіяваў: — Тут падарожнічаў у якімсьці шаснаццатым стагодзьдзі або навет і раней нікому няведамы Ярмак. Магчыма — да самай Амэрыкі. Апярэдзіў Хрыстафора Калюмба! Трэба ў музэй, пад шкло, для падтрымоўваньня прыярытэту!

— Прыярытэт бяссумлеўны, аднак начальству здаць давядзецца, — разважаў я. — Усё-ж-такі халодная зброя.

Гэта быў меч, напалову разьедзены вільгацяй, з масыўным дзяржальнам у выглядзе раскрыжаваньня.

— Як вам падабаецца? — запытваў Рабіновіч. — Бога, зьвярнеце ўвагу, куды прысабачылі. Да прылады забойства — дзяржальна! Скажаце — не? Быў мэтай, а зрабіўся сяродкам. Каб хапацца зручней. А меч — у вадваротны бок: быў сяродкам, стаўся мэтай. Пераменіліся месцамі. Ай-я-ай! Дзе цяпер Бог, дзе меч? У адвечнай мерзлаце і меч і Бог.

— Пакіньце вашыя рэлігійныя перажыткі, — сказаў я й апасьліва адсунуўся (відаць, нездарма папаўся сюды гэты грамадзянін Рабіновіч). — Увесь сьвет ведае — ніякага Бога няма. Ня ў Бога трэба верыць, а ў дыялектыку.

Як ён тут перапалохаўся, гэты кволы Жыд, абстрыжаны пад машынку, у парваных атопках, замазаных гразёю, зь іржавым мячом пад пахай.

— А я што? Ці-ж я спрачаюся? Ніколі ў жыцьці!

Схапіўшы меч ў вабедзьве рукі, ён падняў яго, як парасоль, і затыкаў проста ў неба, што навісла над нашай канавай.

— У імя Бога! З дапамогай Бога! Узамен Богу! Супраць Бога! — прымаўляў ён, быццам запраўдны вар'ят. — І вось Бога няма. Засталася толькі дыялектыка. Хутчэй для новае мэты куйце новы меч!

Я хацеў яму запярэчыць, але раптам жаўнер, што ахоўваў нас ад уцёкаў, прасnуўся на сваім узгорку й закрычаў:

— Гэй, вы ў канаве! Даволі часаць языком! Працаваць пара!

Мы дружна ўзяліся за лапаты.

**Канец**

# Беларусы Нью Ёрку дэманструюць

Усім ведама, што на 15 Асамблею Задзіночаных Нацыяў прыехаў у Нью Ёрк 19 верасьня сам Хрушчоў ды прывёз з сабою ўсіх «гаўляйтэраў» паняволеных расейскім камунізмам народаў, у тым ліку й сакратара КП Беларусі К. Мазурава.

Калі Хрушчоў быў у Амэрыцы якраз год таму як афіцыяльны госьць Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, дык амэрыканскім грамадзянам, што паходзяць з краінаў паза зялезнай заслонай было ня надта зручна дэманстрацыйна пратэставаць супраць прысутнасьці «ката Будапэшту» ды галоўнага віноўнага ў вынішчэньні мільёнаў Беларусаў ды іншых народаў (аднак адбыліся пратэстацыйныя дэманстрацыі й мітынгі), дык гэтым разам справа выглядала йнакш, бо Хрушчоў прыбыў у Нью Ёрк як шэф дэлегацыі Савецкага Саюзу на Асамблею АЗН, а не як галава дзяржавы. Прыехаўшыя зь ім сакратары камуністычных партыяў, у тым ліку й Кірыла Мазураў, аказаліся няпрошанымі гасьцьмі ў Нью Ёрку.

Пачатак Беларускай калёны на дэманстрацыі супраць прысутнасьці Хрушчова ў Амэрыцы, што адбылася ў нядзелю 18-га верасьня сёлета ў Нью Ёрку.

У сувязі з прыездам няпрошаных гасьцей з прадстаўнікоў нацыянальных арганізацыяў і Амэрыканцаў быў створаны адумысловы камітэт пад назовам «Камітэт Амэрыканскае Акцыі», у які ўвайшло й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, каб скаардынаваць акцыю пратэсту з прычыны прыезду камуністычных галавароў у Амэрыку для правядзеньня свае прапаганды.

Паседжаньні гэтага камітэту адбываліся бесьперапынна кажны дзень на працягу цэлага тыдня, у якіх старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп. К. Мерляк браў актыўны ўдзел.

У сыботу 17 верасьня Камітэтам Амэрыканскае Акцыі быў зладжаны мітынг у тэатры Цэнтральнага Парку з нагоды 173-яй гадавіны падпісаньня Канстытуцыі ў Філядэльфіі.

У нядзелю 18-га верасьня адбыўся вялікі парад пратэсту, у якім Беларусы ўзялі масавы ўдзел. Парад вялі Ўкраінцы, за імі йшлі Баўгары, Беларусы, Балцкія народы ды іншыя. Калёна мелася прайсьці ад Публічнай Бібліятэкі (42-я вуліца) па Пятай Авэнью да 70-й вуліцы, а пазьней сьціравацца пад будынак Савецкай місіі пры АЗН, аднак паліцыя сьціравала калёну на 57-ю вуліцу й загадала разыйсьціся. Дэманстрацыя аказалася-б правалам, каб ня ініцыятыва старшыні Галоўнай Управы БАЗА, які праз мэгафон сьціраваў больш за 2000 людзей пад будынак Савецкае місіі, дзе адбылася асноўная дэманстрацыя — пратэст супраць прыезду Хрушчова.

Беларусы ў парадзе несьлі плякаты з наступнымі надпісамі: «Свабода Беларусі», «Кат Беларусі, ты нас не пахаваеш», «Суіснаваньне з савецкімі злачынцамі — ніколі!», «Хрушчоў, чаму беларускія цэрквы ператварыў на камуністычныя клюбы?» ды шмат іншых.

Назаўтра Беларусы таксама ўзялі ўдзел у дэманстрацыі як і ў ваўторак пасьля абеду перад будынкам Задзіночаных Нацыяў, якраз у той час, калі Асамблея адкрывалася афіцыяльна.

Дзеля таго, што Мазураў, сакратар КП Беларусі, у Нью Ёрку — Галоўная Ўправа БАЗА выдала да Беларусаў заклік, у якім гаварылася:

«Мы, Беларусы й Амэрыканцы беларускага паходжаньня ПРАТЭСТУЕМ:




Беларусы дэманструюць перад будынкам Савецкай місіі пры АЗН 17-га верасьня сёлета ў Нью Ёрку.

— супраць прысутнасьці ў Нью Ёрку «гаўляйтэра» Беларусі Кірылы Мазурава;

— супраць народагубнае палітыкі расейскага імпэрыялізму, праводжанай у Беларусі Мазуравам з мэтай вынішчэньня Беларускага Народу;

— супраць пазбаўленьня Беларускага Народу палітычнае, рэлігійнае, культурнае, сацыяльнае й эканамічнае свабоды;

— супраць тэрору ў Беларусі, масавых дэпартацыяў, наглае русыфікацыі, эканамічнага прыгону ды каляніяльнае эксплёатацыі;

адначасна заклікаючы ўсіх Беларусаў узяць удзел у дэманстрацыі перад будынкам Місіі Савецкай Беларусі пры АЗН, адрас — 6 East 67th Street, New York City.

Масавае пікетаваньне Беларусы наладзілі 22 верасьня 1960, нажаль і тут паліцыя адсунула дэманстрантаў на рог 67-й вуліцы й Пятай Авэнью.




Фрагмэнт з дэманстрацыі Беларусаў перад будынкам Місіі Савецкае Беларусі пры АЗН, 22-га верасьня сёлета ў Нью Ёрку.

Аб пікетаваньні Місіі Савецкай Беларусі пры АЗН Галоўная Ўправа БАЗА была выдала адумысловы прэсавы камунікат, які быў разасланы ўсім газэтам Нью Ёрку. У камунікаце гаварылася — калі й чаму Беларусы будуць дэманстраваць ды якую ролю грае Мазураў у паняволенай Беларусі.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць Беларусы Нью Ёрку й Нью Джэрсі што ў нядзельным парадзе ўзялі масавы й актыўны ўдзел, хаця шмат каго нехапала ў радох беларускае калёны, а асабліва «патрыётаў» і навучоных палітыкаў... Таксама трэба адзначыць, што ня бралі ўдзелу й Беларусы зарганізаваныя ў Беларуска-Амэрыканскім Кангрэсавым Камітэце.

Хрушчоў і Мазураў прыбылі на параплаве «Балтыка» ў Нью Ёрк. Яны былі сустрэтыя толькі працаўнікамі Саюзнай Місіі Беларускай ды Ўкраінскай, а неафіцыяльна — дэманстрантамі на лодках Саюзу Ладаўнікоў Порту Нью Ёрк і ўсімі паняволенымі народамі з адпаведнымі плякатамі.

Спэктакль у АЗН працягваецца, Хрушчоў вульгарна лаецца, стукае кулакамі ў стол і нагамі па падлозе, але мягкі дыван заглушае ягоны стук, як і ягоныя прамовы, патрабаваньні, пратэсты, якія застануцца глухімі, бо вольны сьвет добра ацаніў вартасьць камуністычных прапановаў і пераканаўся, што з расейскім каляніялізмам трэба змагацца. А таму трэба спадзявацца, што Хрушчоў хутка ад'едзе з тым, з чым ужо ад'ехаў новы кубанскі дыктатар. Паняволеныя-ж народы дэманструюць і дамагаюцца вызваленьня ня толькі народам у Афрыцы, але й тым, што знаходзяцца пад панаваньнем і каляніяльнай эксплёатацыяй Савецкай Расеі.

**Д. Маяк**

# Канфэрэнцыя нацыянальных арганізацыяў у Вашынгтоне

Камітэтам Рэспубліканскай Партыі была скліканая 19 верасьня сёлета ў Вашынгтоне канфэрэнцыя прадстаўнікоў нацыянальных арганізацыяў Амэрыкі. На канфэрэнцыю прыбылі прадстаўнікі з усяе тэрыторыі Амэрыкі ў колькасьці 250 асобаў, якія рэпрэзэнтавалі 42 нацыянальнасьці. Беларусаў Амэрыкі рэпрэзэнтаваў старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп. Кастусь Мерляк.

Канфэрэнцыя распачалася а 8-й гадзіне раніцы супольным сьнеданьнем у гатэлі Вашынгтон, у якім і адбыліся нарады.

Кіраўнікамі канфэрэнцыі былі: былы Губарнатар штату Мэрылэнд Мэкэльдын (Трэба адцеміць, што Губарнатар Макэльдын праклямаваў дзень 25 Сакавіка ў 1958 годзе з нагоды 40-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі «Беларускім Днём Незалежнасьці» у штаце Мэрылэнд) і Аб Гэрмэн з Вашынгтону ды Джон Рычардзон зь Нью Ёрку.

Галоўнымі прамоўцамі на канфэрэнцыі былі Віцэпрэзыдэнт Рычард М. Ніксан і Сакратар Працы (міністар) Джэймс П. Мічэл.

Віцэпрэзыдэнт на ўступе выразіў падзяку прысутным за запрошаньне яго на канфэрэнцыю ды сказаў, што ён тутака чуецца менш чымся роўным, бо бачыць перад сабою змагароў за свабоду, якія правялі доўгае жыцьцё ў змаганьні з камунізмам.

Нашым заданьнем, працягваў Віцэпрэзыдэнт, будзе стаяць не за «статус кво», а за пашырэньне свабоды на ўсе паняволеныя народы. Навязваючы да прыезду Хрушчова, ён сказаў, што Хрушчоў будзе выступаць на цяперашняй сэсіі АЗН як адвакат палітыкі, якой на фактах заўсёды быў супраць, ён будзе гаварыць пра мір, свабоду, незалежнасьць, антыкаляніялізм і г. д., — аб усім тым, супраць чаго якраз ідзе камунізм.

Пасля прамовы, Віцэпрэзыдэнт правёў даўжэйшы час з прадстаўнікамі ды цікавіўся праблемамі паасобных нацыянальных арганізацыяў. У сустрэчы із старшынём Галоўнае Ўправы БАЗА сп. К. Мерляком, ён прыпомніў, што яго й Архіяпіскапа Васіля ён прыймаў на Капітолю прыблізна 2 гады таму, ды карыстаючы з нагоды перадаў нашаму Ўладыку прывітаньне, а таксама і ўсім сябром Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, уручаючы сваю фатаграфію з адумысловай дэдыкацыяй.

А гадзіне 11-й усе дэлегаты былі прынятыя ў Белым Доме Прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам.

Прэзыдэнт Айзэнгаўэр, зьвяртаючыся да прысутных, гаварыў: «Вітаючы вас у нашым сталічным горадзе, што прыбылі сюды на канфэрэнцыю, я хацеў-бы вас заахвоціць усіх, у гэты неспакойны час, у які, як выглядае, спэцыялістыя закалотаў стараюцца прыехаць у наш край, каб мы ўсе падтрымоўвалі сільную й наважаную нацыянальную палітыку быць вольнымі й памагаць іншым стацца вольнымі, як мы сталіся шмат гадоў таму.»

Далей Прэзыдэнт казаў, што яму заўсёды цяжка было гаварыць да паасобных групаў, а дзеля таго выкарыстоўвае гэтую нагоду, каб прамовіць да ўсіх, «як да Амэрыканцаў».

Прэзыдэнт гаварыў аб векавым змаганьні чалавецтва за сусьветны мір і парадак: «Я перакананы, — казаў ён, — што калі-б адпаведная колькасьць людзей на сьвеце, незалежна дзе — у Афрыцы, Азіі ці ў цэлай Амэрыцы або ў Эўропе ўзяла на сябе заданьне змаганьня за гэты мір і парадак, дык напэўна гэтая праблема была-б разьвязаная.»

Пасьля візыты ў Белым Доме прамаўляў Сакратар Працы Джэймс Р. Мічэл. У сваёй вельмі цікавай прамове ён адцеміў асабліва два моманты: што ў Амэрыцы людзі жывуць у дабрабыце й амэрыканскі спосаб жыцьця вядзе да шчасьця людзей і кажнага паасобку як чалавека, у той час, калі ў камуністычных краінах толькі адзінкі жывуць у дабрабыце, а камуністычны спосаб жыцьця вядзе да загубы людзей і адзінак. Далей ён падчыркнуў, што калі мы ня будзем старацца, каб усе народы былі вольнымі, дык мы ня будзем выконваць свайго заданьня, таго заданьня, якое робіць Амэрыку вялікай.

Пасьля абеду выступаў Губарнатар Макэльдын, які між іншым сказаў прадстаўніком арганізацыяў: «Хто ня любіць свае Маці-Бацькаўшчыны, адкуль ён атрымаў жыцьцё, ня ёсьць годным быць Амэрыканцам і наагул такія людзі, што забываюцца адкуль яны паходзяць, не павінны прыяжджаць у Амэрыку.»

Падчас прэсавае канфэрэнцыі ставіліся розныя пытаньні, пераважна адносна будучай палітыкі ў дачыненьні паняволеных народаў і эвэнтуальна іхнага вызваленьня.

Агульная дыскусія выявіла, што як прадстаўнікі, так і арганізатары добра азнаёмленыя зь небясьпекай расейска-камуністычнай агрэсіі, што было выказана ў канчатковай рэзалюцыі, якая была прынятая аднагалосна.

Прадстаўнікі нацыянальных арганізацыяў у Амэрыцы разьехаліся з канфэрэнцыі зь цьвёрдай надзеяй, што новая адміністрацыя, пасьля выбараў у лістападзе, зьменіць палітыку на больш пазытыўную ў дачыненьні да паняволеных Масквою народаў.

**Д. Маяк**

# Забітыя й забытыя

(Заканчэньне з 3-яе бачыны)

складзеную ў некалькі столак, паволі разгарнуў яе й пачаў чытаць мне вершы. Гэта быў невялікі абразок беларускай восені: хмарнае неба, жоўтыя лісты і сум палёў.

Я у цікавасьці слухаў. Над намі ўгары, на вяршынях разгалістых дрэў шумна каркалі вароны.

Плаўнік раптам спыніў чытаньне.

— Хадзем да мяне, — сказаў ён. — Тут такі гармідар! Гэтыя вароны ўсё ўражаньне псуюць.

— Так, вароны з трывожным крыкам кружыліся над сваімі гнёздамі і здавалася, прадвяшчалі нешта нядобрае...

Жыў Ізраіль Плаўнік паблізу гарадзкога саду «Прафінтэрн». Пакой нявялікі, але ўтульны. На стале кнігі й газэты. Ложак пакрыты беларускай саматканай дзяругай. На сьцяне над ложкам — партрэты Купалы, Бядулі й іншых.

— Вось мая паэтычная мансарда, — сказаў з лагоднай усьмешкай Плаўнік.

Мы сядзелі да позьняга вечару. Гутарылі аб розных літаратурных плынях, аб паэзіі наагул, аб новых творах беларускіх пісьменьнікаў.

Плаўнік расказваў пра свае творчыя пляны. Ён надумаў вялікую рэч — лірычную паэму. Ужо ёсьць і пачатак. Плаўнік паказаў мне рукапіс.

Час зьмяняў аблічча. Плаўнік жыў амаль зь літаратурных ганарараў. Браў пераклады ў выдавецтве. Пісаў у газэты.

Раптам надыйшлі чорныя дні. Арышты пісьменьнікаў... Пагоршыліся справы ў выдавецтве. Зьменшыўся заработак. Страх адзіноцтва й няпэўнасьць будучыні. А навакол назойлівае, настырлівае «ворагі народу», «нацдэмы»...

Ізраіль Плаўнік перайшоў на кватэру свайго брата. Але й гэта не супакоіла, а найбольш хвалявала Ізраіля. Над ягоным братам таксама вісеў Дамоклаў меч. Зьмітрака Бядулю ці раз крытыкавалі ў савецкай прэсе за мінулае.

І вось так у нэрвовай напружанасьці, заўсёды пад страхом — і за сябе і за брата — Ізраіль Плаўнік ня вытрываў. Ён псыхічна захварэў. Яго павезлі ў Маскву на лячэньне і ён адтуль не вярнуўся.

Пра гэтае няшчасьце мне сказаў ягоны брат Зьмітрок Бядуля.

Была халодная восень. Над пустым сквэрам злавесна каркалі вароны.

Вось так трагічна загінулі паэты ў савецкай рэчаіснасьці — маральна забітыя і наўмысна забытыя.

**Кастусь Рамановіч**

## BELORUSSIAN REVIEW

**Інстытуту Вывучэньня СССР, № 8, 1960, бач. 88 (у ангельскай мове)**

Выйшаў чарговы 8-ы нумар «Беларускага Зборніка» ў ангельскай мове.

У гэтым нумары зьмешчаны наступныя артыкулы: **Н. Недасек:** Нацыянальнае самавызначэньне й Саветы; **Ул. Глыбінны:** Найноўшыя праявы змаганьня за самабытнасьць беларускае культуры; **Ант. Адамовіч:** Афіцыйны савецкі Парнас беларускае літаратуры; **Р. Касьцюк:** Да 20-годзьдзя пакту Молатаў-Рыбэнтроп і пачатку Другое сусьветнае вайны; **А. Конаш:** Чыгуначны транспарт Беларусі; **С. Кабыш:** Палесьсе й праблема мэльярацыі ў Беларусі; **А. Парамонаў:** Сучасны стан лясоў Беларусі.

У канцы Зборніка зьмешчаны інфармацыйны агляд дзейнасьці Інстытуту Вывучэньня СССР з нагоды 10-годзьдзя яго йснаваньня.

# Беларускія маркі

**«ЯНЫ ПАМЕРЛІ,
КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА —
ЖЫВЕЦЕ ВЫ, КАБ БАЦЬКАЎШЧЫНА НЕ ПАМЕРЛА!»**

**Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА), адзначаючы ГОД СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ, якім быў абвешчаны 1960 год, выдала юбілейныя маркі (у чатырох колерах: блакітным, чырвоным, зялёным і шэрым). ЗБМА**




**заклікае ўсіх суродзічаў пашыраць гэтыя маркі спосабам наклейваньня іх на лістох і пачках. За здабытыя пры гэтым грошы беларуская моладзь у Амэрыцы пляніе выдаць да саракавых угодкаў Паўстаньня Слуцкі Альманах.**

**Падтрымвай змагарныя традыцыі беларускага народу!**

**Складзі ахвяру на выданьне Слуцкага Альманаху!**

**У ўсіх справах зварачайся на адрыс:**

**Byelorussian Youth Ass'n of America
401 Atlantic Ave.
Brooklyn 17, N. Y., USA.**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France**, 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.